# XVII З'ЕЗД КП(б)Б

## *Дзённік вячэрняга пасяджэння 14 чэрвеня*

На вячэрнім пасяджэнні закончыліся спрэчкі па справаздачнаму дакладу ЦК КП(б)Б і па дакладу рэвізійнай камісіі. Усяго ў спрэчках выступілі 55 чалавек з 123 запісаўшыхся.

Тав. **Ананьеў** — сакратар Віцебскага абкома партыі—у сваім выступленні спыніўся на пытанні партыйнай прапаганды, указаўшы, што больш 600 камуністаў па вобласці не ахоплены партыйнай вучобай.

Загадчык АКПО ЦК КП(б)Б тав. **Бяляеў**, выступаючы ў спрэчках, прызнае зусім правільнай крытыку дрэннай работы АКПО. Разам з тым ён робіць справядлівы дакор раённым камітэтам партыі, гаркомам і абкомам у несур'ёзных адносінах іх да афармлення партыйных дакументаў.

Аб велізарным палітычным і вытворчым узлыме сярод работнікаў, чыгункі ў сувязі з прыходам на транспарт сталінскага наркома Л. М. Кагановіча гаварыў у сваім выступленні начальнік Заходняй чыгункі тав. **Кавалёў.** Ен рэзка крытыкуе прамысловы аддзел ЦК КП(б)Б за дрэннае кіраўніцтва чыгуначным транспартам.

Тав. **Свінцоў** (нарком земляробства) у сваім выступленні крытыку дэлегатамі з'езда парочнай сістэмы работы Наркамзема прызнаў правільнай. Ен запэўніў з'езд, што прыме ўсе меры, каб забяспечыць выкананне адказнейшых задач, якія стаяць перад наркаматам.

***

З заключным словам выступіў выконваючы абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б тав. **Волкаў.**—Спрэчкі па справаздачы ЦК, — адзначыў тав. Волкаў, — праходзілі дзелавіта, правільна. Яны былі накіраваны на ўскрыццё недахопаў у партыйнай рабоце, на мабілізацыю КП(б)Б на канчатковую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва, на выкрыццё і выкарчоўванне да канца ўсіх паслядышаў трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх бандытаў.

Далей тав. Волкаў спыняецца на задачах нашага бальшэвіцкага друку і галоўным чынам на пытанні асвятлення партыйнага жыцця на старонках газет, завастраючы ўвагу з'езда на неабходнасць правільнага падбору і праверкі газетных кадраў, асабліва ў аддзелах партыйнага жыцця.

Вялікае месца ў сваім заключным слове тав. Волкаў аддаў задачам абароннай работы.

У заключэнне тав. Волкаў спыніўся на задачах, якія стаяць перад партарганізацыямі ў сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Вярхоўны Совет БССР. Гэтыя выбары павінны быць праведзены яшчэ лепш, яшчэ больш арганізавана, чым выбары ў Вярхоўны Совет СССР.

Дэлегат з'езда тав. **Васільеў** уносіць прапанову аб прыняцці ацэнкі работы ЦК КП(б)Б. З'езд аднагалосна прымае наступную пастанову:

**«Заслухаўшы і абмеркаваўшы справаздачны даклад тав. Волкава А. А. аб рабоце Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б, XVII з'езд КП(б)Б прызнае палітычную лінію ЦК КП(б)Б за перыяд пасля жнівеньскага пленума ЦК КП(б)Б правільнай і практычную работу здавальняючай».**

## *Дзённік ранішняга пасяджэння 15 чэрвеня*

На ранішнім пасяджэнні да першай гадзіны дня працавала выбраная з'ездам камісія па складанню рэзалюцыі па справаздачнаму дакладу ЦК КП(б)Б. Ад імя камісіі тав. Лявіцкі уносіць праект рэзалюцыі на абмеркаванне з'езда. Пасля ўсебаковага абгаварэння пад дружныя апладысменты дэлегатаў рэзалюцыя з унесенымі дадаткамі прымаецца з'ездам аднагалосна.

У канцы пасяджэння з'езд вітала дэлегацыя часцей Менскага гарнізона, цёпла сустрэтая дэлегатамі. З яркай хвалюючай прамовай выступіў старшы палітрук тав. Хазанаў. Ен перадае дэлегатам XVII з'езда палкае баявое чырвонаармейскае прывітанне. Бальшэвікі часцей Менскага гарнізона, — гаворыць ён, — прышлі да XVII з'езда камуністычнай партыі бальшэвікоў Беларусі адзінымі маналітнымі радамі, цесна згуртаванымі вакол партыі Леніна—Сталіна і правадыра народаў вялікага Сталіна.

І калі тав. Хазанаў гаворыць аб глыбокіх пачуццях любві і адданасці тытану рэвалюцыйнай думкі і волі, вялікаму маршалу камунізма роднаму і мудраму Сталіну, які штодзенна клапоціцца аб магутнасці нашай доблеснай арміі, аб слаўным саратніку вялікага Сталіна, пролетарскім палкаводцу, маршалу Савецкага Саюза Кліменце Ефрэмавічу Варашылаву, дэлегаты з'езда зноў ўстаюць і наладжваюць бурную авацыю. На працягу доўгага часу раздаюцца апладысменты, крыкі «ура» і воклічы ў гонар таварыша Варашылава і магутнай Чырвонай Арміі.

Прадстаўнікі бальшэвікоў Беларусі на гэтай сустрэчы з прадстаўнікамі доблеснай Чырвонай Арміі выказвалі любоў і ўвагу да сваёй магутнай Чырвонай Арміі, да яе бясстрашных лётчыкаў, неперамажных танкістаў, ліхіх кавалерыстаў, якія ахоўваюць заходнія рубяжы Савецкага Саюза.

## *Дзённік вячэрняга пасяджэння 15 чэрвеня*

На вячэрнім пасяджэнні з'езд заслухаў даклад тав. Бяляева аб рабоце мандатнай камісіі, які ўказаў, што мандаты атрымалі 418 дэлегатаў з правам рашаючага і 123 з дарадчымі галасамі. Пераважная большасць дэлегатаў з'езда — 319 чалавек — па сацыяльнаму становішчу — рабочыя, па партыйнаму стажу — з 1925 па 1927 гг. — 169 чалавек, з 1928 па 1930 годы — 145 і 58 чалавек са стажам з 1931 года. 207 дэлегатаў працуюць на партыйнай рабоце.

Цікавыя даныя даюць лічбы аб агульнай і палітычнай адукацыі дэлегатаў. 28 чалавек скончылі інстытуты Чырвонай прафесуры, 175 чал. з камвузаўскай адукацыяй, 19 таварышоў скончылі курсы марксізма. У ліку дэлегатаў 63 ордэнаносцы. З'езд аднагалосна зацвердзіў даклад мандатнай камісіі.

Пасля гэтага з'езд прыступіў да выбараў Цэнтральнага Камітэта. З'езд устанавіў колькасць членаў ЦК — 75 чалавек, кандыдатаў у члены ЦК — 23, склад рэвізійнай камісіі — 9 чал.

Вячэрняе пасяджэнне было прысвечана вылучэнню і абмеркаванню кандыдатур для тайнага галасавання ў члены Цэнтральнага Камітэта.

## *Дзённік ранішняга пасяджэння 16 чэрвеня*

На ранішнім пасяджэнні 16 чэрвеня прадаўжалася абмеркаванне кандыдатур для тайнага галасавання ў склад пленума ЦК КП(б)Б і рэвізійнай камісіі.

Абмеркаванне кандыдатур праходзіць арганізавана, на высокім прынцыповым узроўні. Перад закрыццём ранішняга пасяджэння з'езд вітала дэлегацыя пагранічных і ўнутраных войск НКВД БССР.

З вялікай хвалюючай прамовай ад імя дэлегацыі пагранічнікаў выступіў начальнік чырвонасцяжнага пагранатрада тав. Марозаў. Ен перадае з'езду баявое пагранічнае прывітанне ад імя тысяч патрыётаў савецкай радзімы — пільных вартавых рубяжоў заходніх граніц СССР. Тав. Марозаў гаворыць аб адданасці пагранічнікаў сацыялістычнай радзімы бальшэвіцкай партыі і правадыру народаў усяго свету таварышу Сталіну.

Прамова тав. Марозава часта перарываецца бурнымі воплескамі, пераходзячымі ў авацыю. Дэлегаты з'езда, стоячы, ад імя ўсёй КП(б)Б і працоўных Беларусі выражалі сваю любоў і пачуцці няўтомным зоркім вартавым, слаўным пагранічнікам.

Бура авацый і воклічы ў гонар слаўнай савецкай разведкі і бясстрашных пагранічнікаў яшчэ больш узмацняюцца, калі тав. Марозаў паведамляе, што на з'ездзе сярод дэлегацыі пагранічнікаў прысутнічае група байцоў, якая напярэдадні з'езда знішчыла вялікую групу фашысцкіх шпіёнаў і дыверсантаў, прабаваўшых перайсці савецкую граніцу.

— Ад імя пагранічнікаў,—гаворыць тав. Марозаў,—я заяўляю, што ніколі і нікому не ўдасца перайсці савецкую граніцу. Той, хто паспрабуе гэта зрабіць, будзе знішчаны і змецены з твару зямлі. А калі фашысты навяжуць нам вайну, то пагранічнікі, разам з доблеснай Чырвонай Арміяй і магутным савецкім народам, сустрэнуць іх на граніцы і разгромяць іх на іх-жа тэрыторыі. Зноў раздаюцца гучныя воплескі і воклічы ў гонар неперамажнай савецкай разведкі. У гонар вялікага Сталіна, сталінскага наркома таварыша Ежова і правадыра Чырвонай Арміі першага маршала Савецкага Саюза тав. Варашылава.

## Будаўніцтва Вялікага тэатра будзе забяспечана рабочай сілай

У мінулым нумары газеты мы паведамлялі, што для сканчэння будаўніцтва Вялікага тэатра оперы і балета ў тэрміны, вызначаныя Соўнаркомам БССР, лік рабочых на будаўніцтве павінен быць павялічан да 800 чалавек, замест працаваўшых на 9 чэрвеня 160 чалавек. Зараз Белпрамбудтрэст прыняў рад мер па забеспячэнню будаўніцтва тэатра рабочай сілай.

З іншых будаўнічых участкаў пераводзіцца на будаўніцтва тэатра некалькі брыгад цесляроў (брыгады тт. Цярэнцева, Палявода, Сіроцкага і інш.). Усяго будаўніцтва тэатра атрымае ў бліжэйшыя дні 35 цесляроў.

З Малярбудам ёсць дагаворанасць аб пераводзе на будаўніцтва тэатра 40 атынкоўшчыкаў. Загадчык атынковачным цэхам Малярбуда тав. Халяўскі выязджае ў Чарнігаўскую вобласць для набору яшчэ 50—60 атынкоўшчыкаў дадаткова. Вядуцца перагаворы з прадстаўнікамі брыгады атынкоўшчыкаў Орлоўскай вобласці.

З іншых участкаў пераведзена на будаўніцтва тэатра некалькі брыгад дапаможных рабочых (брыгады т.т. Зялёнага, Рэбчыка, Бамбіза, Хілько)—усяго 35 чалавек.

85—90 дапаможных рабочых чакаюцца ў бліжэйшыя дні з Капаткевіцкага і Камарынскага раёнаў. Два прадстаўнікі Белпрамбудтрэста пасланы для набору рабочай сілы ў Старадарожскі раён.

Праўда, усе вышэйпералічаныя мерапрыемствы не забяспечаць будаўніцтва тэатра рабочай сілай поўнасцю. Аднак, намеснік дырэктара Белпрамбудтрэста тав. Вайнер абяцае правесці яшчэ рад мерапрыемстваў і да 1—3 ліпеня поўнасцю забяспечыць будаўніцтва Вялікага тэатра кваліфікаванай дапаможнай рабочай сілай.

Для паляпшэння набору рабочай сілы рэарганізаван аддзел кадраў трэста: з яго выдзелен спецыяльны аддзел кадраў гор. Менска.

П—н.

# КАНДЫДАТЫ БЛОКА КОМУНІСТАЎ І БЕСПАРТЫЙНЫХ

## СУСТРЭЧА КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР тав. А. В. БАГАТЫРОВА СА СВАІМІ ВЫБАРШЧЫКАМІ

8 чэрвеня ў клубе Беларускага педагагічнага вучылішча адбылася сустрэча кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР кампазітара **Анатолія Васільевіча Багатырова** з выбаршчыкамі 1-га выбарчага ўчастка Варашылаўскай выбарчай акругі гор. Менска. Сабраўшыяся рабочыя, работніцы, служачыя, хатнія гаспадыні вельмі цёпла спаткалі свайго кандыдата.

Тав. Багатыроў звярнуўся да выбаршчыкаў з прамовай, у якой заявіў наступнае:

— Дарагія таварышы, дазвольце прынесці вам маю глыбокую падзяку за давер'е і гонар, якія вы мне аказалі, вылучыўшы мяне кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР. Толькі вялікая Сталінская Канстытуцыя з'яўляецца сапраўднай дэмакратыяй, якая дае магчымасць савецкаму народу вылучаць сваіх кандыдатаў, не гледзячы на іх маёмаснае становішча, іх узрост і інш. Ні ў адной буржуазна-дэмакратычнай дзяржаве немагчыма вылучэнне маладога чалавека — прадстаўніка рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі — у парламент. Толькі ў краіне перамогшага сацыялізма, у краіне, дзе дзейнічае вялікая Сталінская Канстытуцыя, сам народ вылучае ў свой парламент сваіх кандыдатаў. Каб папасці ў дэпутаты буржуазнага парламента, трэба мець пэўнае маёмаснае, саслоўнае і ўзроставае становішча. У нашай сацыялістычнай радзіме гэтых абмежаванняў няма, бо дэмакратыя ў нашай краіне ёсць сапраўдная дэмакратыя для ўсіх працоўных...

Спыніўшыся на мінулым Беларусі, на тым, што ўяўляла сабою Беларусь у часе царызма, тав. Багатыроў падрабязна расказаў аб велізарнейшых перамогах Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі за 20 год сацыялістычнага будаўніцтва, пры дапамозе братніх рэспублік, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна.

У Беларусі пасля Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі вырас рад таленавітых пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, акцёраў. Ёсць значная колькасць тэатраў, кіно. Ёсць Дзяржаўная Кансерваторыя, якая выхоўвае кадры музыкантаў, ёсць Філармонія, Радыёкамітэт, сетка музычных вучылішчаў і школ. Усё гэта паказвае на тое, як партыя, урад і асабіста таварыш Сталін клапоцяцца аб народзе, аб кадрах і выхоўваюць маладыя кадры. **(Бурныя апладысменты).**

Асабіста я, таварышы, належу таксама да маладых кадраў. Маё жыццё пачалося, правільна кажучы — пачынаецца зараз, пры савецкай уладзе. Нарадзіўся я ў 1913 годзе ў Віцебску ў сям'і настаўніка. Царызму я не памятаю і ведаю толькі аб ім па расказах бацькоў і па гістарычных матэрыялах. Скончыў я ў Віцебску сярэднюю школу ў 1930 годзе. Адначасова займаўся ў музычнай школе па класу раяля. Музыкальныя здольнасці і імкненне да музыкі выявіліся ў мяне з ранняга маленства. 10-ці год пачаў я пісаць уласную музыку. Гэта паслужыла прычынай да пасылкі мяне ў 1930 годзе на вучобу ў Менск, у музычны тэхнікум. У 1932 годзе я паступіў ў Дзяржаўную Кансерваторыю БССР, якую скончыў у 1937 годзе па класу тэорыі і кампазіцыі ў праф. Залатарова. Адначасова працаваў у якасці піяніста ў Эстрадным бюро, потым у Оперным тэатры канцэртмейстарам. З 1933 года з'яўляюся членам Саюза савецкіх кампазітараў БССР. З гэтага часу сістэматычна займаюся творчасцю. Мною напісаны сімфонія да 20-годдзя Вялікага Кастрычніка, скерца для сімфанічнага аркестра на тэму беларускіх народных песень, трыо для раяля, скрыпкі і віяланчэлі ў чатырох частках на тэмы беларускіх народных песень, паэма-казка на тэкст Пушкіна для хора, салістаў і сімфанічнага аркестра, харавы твор «Сказ аб партызане» на тэкст Суркова; рад рамансаў, апрацовак народных беларускіх песень, масавых песень і г. д. Апошняя мая работа — опера «Дрыгва» па аповесці Якуба Коласа на тэму барацьбы беларускага народа і Чырвонай Арміі з белапольскімі акупантамі. У сваёй оперы я імкнуўся дабіцца таго, каб музыка была прасякнута беларускім народным каларытам. Працую ўжо амаль год, работа набліжаецца да канца. У новым сезоне, у пачатку 1939 года, мая опера будзе пастаўлена тут, у Менску, у Тэатры оперы і балета, а ў канцы 1939 года яна будзе паказана ў Маскве ў часе дэкады беларускага мастацтва. Я з вялікім хваляваннем чакаю моманту, калі мой лепшы твор пачуюць кіраўнікі партыі, урада і вялікі Сталін. Гэты дзень будзе для мяне адным з лепшых дзён майго жыцця. У далейшым я мару аб тым, каб напісаць оперу, якая адлюстравала-б наш сёнешні дзень, якая адлюстравала-б нашых стаханаўцаў — герояў заводаў і палёў, герояў-пагранічнікаў.

Таварышы, мы не павінны забываць, што мы знаходзімся ў капіталістычным акружэнні, што капіталістычныя дзяржавы будуць і надалей засылаць да нас усякага роду шпіёнаў і дыверсантаў, падрыхтоўваючы адначасова ўзброены напад на нас. Мы не павінны забываць, што ў нас могуць аказацца яшчэ рэшткі выкрытых і разбітых ворагаў народа, рэшткі трацкісцка-бухарынскай сволачы. Гэтыя прэзрэнныя сабакі фашызма асабліва нашкодзілі ў нас у Беларусі. Яны рыхтавалі рэстаўрацыю капіталізма, яны жадалі заліць крывёю нашу радзіму. Толькі дзякуючы нашым слаўным наркамунутдзельцам і вернаму сталінскаму наркому Нікалаю Іванавічу Ежову **(бурныя апладысменты)** гэтыя мярзаўцы выкрыты і сцёрты з твару зямлі. Мы гэтага не павінны забываць, таварышы, і ўсяк узмацняць нашу класавую пільнасць, дапамагаць выкрываць ворага. Мы павінны ўсяк узмацняць абароназдольнасць нашай краіны, нашай неперамажнай Чырвонай Арміі і быць заўсёды гатовымі даць моцны адпор ворагу, калі ён паспрабуе напасці на нас.

Дарагія таварышы, яшчэ раз прыношу вам маю глыбокую падзяку за давер'е і гонар. Абяцаю быць вашым дастойным дэпутатам, працаваць і змагацца за справу народа, за справу партыі Леніна—Сталіна.

Следам за тав. Багатыровым выступілі хатнія гаспадыні тт. **Гурыновіч, Жыдок,** рабочы тав. **Любалін** і служачы тав. **Кантаровіч.**

— Вялікае дзякуй таварышу Сталіну за тое, што ён выхаваў такіх таленавітых сыноў нашай любімай радзімы, як Анатолій Васільевіч Багатыроў, — заявіла ў сваёй прамове хатняя гаспадыня тав. **Жыдок.** Выбаршчыкі заклікалі ўсіх прысутных аднадушна галасаваць за кандыдата блока камуністаў і беспартыйных — вернага сына радзімы Анатолія Васільевіча Багатырова.




**Плакат работы мастака В. Гаворкава—да выбараў у Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік.** Рэпрадукцыя Саюзфота.

## Сустрэча выбаршчыкаў Суражскай выбарчай акругі са сваім кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. М. Ц. ЛЫНЬКОВЫМ

5 чэрвеня ў Суражы адбыўся шматлюдны мітынг, прысвечаны сустрэчы выбаршчыкаў Суражскай выбарчай акругі са сваім кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР—тав. **Міхаілам Ціхонавічам Лыньковым.** На мітынгу прысутнічала 3.500 чалавек. Стройнымі калонамі, са сцягамі, партрэтамі таварыша Сталіна, кіраўнікоў партыі і ўрада прышлі на мітынг рабочыя і работніцы, калгаснікі і калгасніцы мястэчка і калгасаў. Многія калгаснікі прыехалі на аўтамашынах і цялегах, упрыгожаных лозунгамі, плакатамі, сцягамі і партрэтамі таварыша Сталіна і яго саратнікаў.

З вялікай і змястоўнай прамовай выступіў тав. М. Ц. Лынькоў. Яго прамова неаднаразова прарывалася воклічамі «ура» і апладысментамі ў гонар тварца самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі—**Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.**

### ПРАМОВА тав. М. Ц. ЛЫНЬКОВА

Дарагія таварышы! Мы жывём у шчаслівую Сталінскую эпоху. Над нашай радзімай, як яркі маяк, свеціць вялікая Сталінская Канстытуцыя.

Хто тварэц гэтай Канстытуцыі? Хто даў гераічнаму народу вялікага Савецкага Саюза гэты выключны ў гісторыі чалавецтва дакумент? З чыім імем звязаны велізарныя перамогі ў нашай краіне, з чыім імем звязана наша мірная творчая праца, нашы поспехі, наша радасць? З чыім імем звязана ўтварэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці, чыё імя натхняе непарушную дружбу народаў Савецкага Саюза? Гэта імя — Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.

Канстытуцыя ў нас сталінская. Пяцігодкі ў нас—сталінскія. Дружба народаў у нас—сталінская. Заснавальнікам нашай дзяржаўнасці з'яўляецца Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.

Дазвольце-ж, таварышы, першым маім словам выказаць найглыбейшую падзяку—маю асабістую і ўсіх нас—Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну, вернаму прадаўжальніку справы Леніна, геніяльнаму арганізатару нашых перамог.

Няхай жыве Іосіф Вісарыёнавіч Сталін! **(Бурныя апладысменты).**

Другім маім словам дазвольце вынесці вам гарачую падзяку за высокае давер'е, якое вы аказалі мне, вылучыўшы сваім кандыдатам ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР.

Таварышы, цяжка выказаць простымі чалавечымі словамі цану гэтага давер'я. Дазвольце мне як члену партыі, ацаніць ваша давер'е да мяне, як давер'е да партыі бальшэвікоў.

Толькі камуністычнай партыі, савецкаму народу я абавязан сваім свядомым жыццём, сваёй творчай работай, сваім званнем савецкага пісьменніка.

Не будзь нашай Вялікай пролетарскай рэвалюцыі, не будзь савецкай улады, не сабраліся-б мы з вамі выбіраць свой родны ўрад, не абмяркоўвалі-б з вамі дзяржаўных спраў, не быць-бы мне вашым кандыдатам. Як вушэй сваіх не бачыць-бы мне тых грандыёзных благ і магчымасцей, якія мне, сыну былога рамонтнага рабочага-чыгуначніка, сыну былога будачніка, дала і дае савецкая ўлада, як дае тысячам і мільёнам людзей нашага вялікага і магутнага Савецкага Саюза.

Таварышы, нязмерна вырасла за гэтыя годы наша краіна. Нязмерна выраслі нашы савецкія людзі, якія робяць сапраўдныя цуды на ўсіх франтах сацыялістычнага будаўніцтва.

Колькі выдатных герояў вырасціла краіна за апошнія годы! Колькі мужных подвігаў зрабілі нашы савецкія людзі.

Пры дапамозе вялікага рускага народа, пад кіраўніцтвам Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна вырасла і ўзмужнела Савецкая Беларусь, стала багатай індустрыяльна-аграрнай краінай з высока развітай культурай, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу, адной з перадавых рэспублік Савецкага Саюза.

Ворагі народа—трацкісцка-бухарынская нечысць, нацыянал-фашысцкія гады—марылі падарваць магутнасць нашай радзімы, дабрабыт яе працоўных, марылі вярнуць краіну ў былое капіталістычнае рабства, аддаць нас на водкуп нашым ворагам—фашыстам.

Асінныя гнёзды ворагаў народа ўскрыты і разгромлены слаўнымі органамі НКВД на чале з тав. Н. І. Ежовым.

Ворагі разбіты. Няма тае сілы, якая-б магла зламіць вялікі, свабодны і гераічны савецкі народ. Але мы павінны быць пільнымі. Яшчэ варушыцца тамсям варожае ахвосце, яшчэ не разбіт сусветны фашызм, які рыхтуе напад на нас.

Будзем-жа пільнымі, будзем гатовы ў любую мінуту даць ворагу сакрушальны адпор, граміць яго і знішчаць на ўласнай яго тэрыторыі!

Мы кожную мінуту павінны памятаць гістарычныя словы таварыша Сталіна, што «трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць», ніякія спробы нашых знешніх ворагаў не змаглі засцігнуць нас знянацку».

Мы павінны ўсімі сіламі дапамагаць нашай слаўнай Чырвонай Арміі, усімі сіламі ўмацоўваць абароназдольнасць нашай краіны. Мы жывём на граніцы, у непасрэднай блізкасці з капіталістычным светам. Пастараемся, каб ні адна фашысцкая гадзюка не змагла-б перапаўзці на нашу свяшчэнную тэрыторыю.

Мы ўсе, выбаршчыкі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, ганарымся тым, што першымі нашымі кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР з'яўляюцца таварыш Сталін і яго бліжэйшыя саратнікі—таварышы Молатаў, Варашылаў, Кагановіч, Калінін, Мікаян, Андрэеў, Ежоў, Жданаў. Для нас з'явілася сапраўдным святам іх згода балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР і мы пастараемся ва ўсёй нашай рабоце, ва ўсім нашым жыцці, у любой справе быць вартымі нашых першых кандыдатаў, ва ўсім браць з іх прыклад, вучыцца ў іх змагацца за шчасце ўсяго чалавецтва.

Таварышы, яшчэ раз дзякую вам за высокае давер'е, аказанае мне. Я абяцаю свята, непарушна ахоўваць інтарэсы савецкага народа. Усе свае сілы і здольнасці я аддам на карысць савецкага народа, да апошняй кроплі крыві, да апошняга свайго ўздыху буду служыць народу, яго справе.

Няхай жыве магутны і неперамажны савецкі народ!

Няхай жыве наша выдатная радзіма!

Няхай жыве найвялікшы, мудры, горача любімы наш друг і настаўнік, арганізатар нашых перамог, правадыр усіх народаў — Іосіф Вісарыёнавіч Сталін! **(Бурныя апладысменты).**

Пасля прамовы тав. Лынькова выступілі калгасніца калгаса імя Крупскай тав. **Баута,** брыгадзір калгаса «Чырвоны партызан» **Якаў Цыганкоў,** старшыня калгаса «Пагранічнік» тав. **Іваноў,** рабочы Нова-Александраўскага ільнозавода тав. **Дзімітрачэнка,** настаўнік суражскай поўнай сярэдняй школы імя Куйбышэва тав. **Цэмрук,** якія ад імя ўсіх выбаршчыкаў абяцалі аддаць свае галасы за аднаго з лепшых сыноў беларускага народа—беларускага пісьменніка Міхаіла Ціхонавіча Лынькова.

— Мы, жанчыны,—заявіла калгасніца тав. Баута,—разам з мужчынамі арганізавана прыдзем да выбарчых урнаў і будзем галасаваць за нашу сталінскую дружбу народаў, за блок камуністаў і беспартыйных, за вылучанага намі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, вернага сына беларускага народа таварыша Міхаіла Ціхонавіча Лынькова.

Вечарам тав. М. Ц. Лынькоў прыняў удзел у настаўніцкай канферэнцыі, прысвечанай вынікам вучэбнага года.

6 чэрвеня тав. Лынькоў выступіў з прамовай на нарадзе старшынь сельсоветаў і калгасаў і адказных па ільну. У той-жа дзень тав. Лынькоў выступаў у Запольскім і Пудацкім сельсоветах. 7 чэрвеня тав. М. Ц. Лынькоў наведаў Суражскую сярэднюю школу, дзе прысутнічаў на іспытах у розных класах і правёў гутарку з дзесяцікласнікамі. Потым тав. Лынькоў наведаў калгас «Новы шлях», Краўцоўскі сельсовет і Суражскую МТС.

8 чэрвеня тав. Лынькоў наведаў Суражскі ільнозавод і прысутнічаў на мітынгу ў вёсцы Вялікае Рабава, Маргонскага сельсовета.

Усюды выбаршчыкі вельмі цёпла сустракалі свайго кандыдата.

## БЕЛДЗЯРЖДРАМТЭАТР У ОДЭСЕ

5 чэрвеня, на пероне Одэскага вакзала сабралася надзвычай багата народу. Студэнты музычнага і мастацкага вучылішчаў з вялікім чырвоным лозунгам «Прывітанне тэатру Савецкай Беларусі», роўныя шарэнгі падшэфных працаўнікам мастацтваў чырвонаармейскіх часцей з баявымі сцягамі, група стаханаўцаў буйнейшага ў горадзе завода імя Студзеньскага паўстання з сваім аркестрам, групы працаўнікоў одэскіх тэатраў: Украінскага тэатра Рэвалюцыі, Рускага, Яўрэйскага, Юнага гледача, Оперы і балета—з велізарнымі букетамі чырвоных руж.

Шумнымі воплескамі, бадзёрымі маршамі двух аркестраў быў сустрэчан падышоўшы поезд. Адбыўся кароткі мітынг, на якім выступілі: начальнік абласнога аддзела мастацтваў тав. Фішман, старшыня абкома саюза працаўнікоў мастацтваў тав. Батрава і рад іншых прадстаўнікоў савецкай грамадскасці горада — кампазітар Данькевіч, актор Сабольскі і інш.

З адказным словам ад калектыва тэатра выступілі: дырэктар тэатра тав. Гайдарын і мастацкі кіраўнік тав. Рахленка.

Яны падзякавалі прысутных за выключна шчыры і сяброўскі прыём.

Вечарам 6 чэрвеня ў памяшканні Украінскага тэатра Рэвалюцыі спектаклем «Салавей» З. Бядулі пачаліся гастролі тэатра. Перад пачаткам спектакля з прывітаннем выступіў тав. Гайдарын. Калектыў тэатра выканаў араторыю, прысвечаную выбарам. П'еса «Салавей» была прынята гледачом з выключным поспехам.

Е. РАМАНОВІЧ.

Адказны рэдактар І. ГУРСКІ.

Друкарня «Звязды». Газета «Літаратура і мастацтва» выходзіць адзін раз у пяцідзёнку. Адрас рэдакцыі газеты: Менск, Савецкая, 76, Дом пісьменніка. Тэлефон 25-394. Уп. Галоўлітбела № 3—1107.